# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 30 (961) ГОД XIX БЕЛАСТОК 28 ЛІПЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.



*Так выглядае Беласток у XXX гадавіну свайго вызвалення.*

*Фота Я. Цялушэцкага*

## Нашы ІНТЭРВ'Ю

30 год таму назад 27 ліпеня 1944 года Савінфармбюро паведамляла:

*„Войскі 2-га Беларускага фронту, пасля двухднёвых заўзятых баёў, авалодалі 27 ліпеня горадам і вялікім прамысловым цэнтрам — Беластокам, які з'яўляецца важным чыгуначным вузлом і моцна ўзброеным раёнам нямецкай абароны. Затым войскі Фронту вызвалілі яшчэ больш чым 30 іншых мясцовасцей — Васількоў, Старасельцы, Сальнікі, Жукі...”*

— Як тады, у ліпені 1944 года, выглядаў Беласток? — пытаю ў **прэзідэнта горада Беластока, тав. Аляксандра Чужа.**

— Горад быў разбураны, асабліва яго цэнтр, дзе не асталося амаль ніводнага цэлага дома. Трэба адзначыць, што Беласток намнога больш пацярпеў ад планавай злачыннай дзейнасці акупантаў чым у выніку баёў за яго вызваленне.

— З якімі затратамі ў людзях выйшаў Беласток з вайны?

— З вялікімі. У 1939 годзе ў Беластоку пражывала 107 тыс. чалавек, а ў 1946 годзе — ледзь 57 тыс. асоб. Для параўнання варта дадаць, што цяпер у нашым горадзе налічваецца 186 тысяч




жыхароў, а праз 15—20 гадоў Беласток стане 300-тысячным горадам. Такія планы яго развіцця.

— Асноўным фактарам развіцця з'яўляецца прамысловасць...

— Да вайны, у 1938 годзе, у беластоцкай, пераважна тэкстыльнай, прамысловасці знаходзіла працу — і то не заўсёды — каля 8 тысяч рабочых. Беластоцкія фабрыкі выйшлі з вайны амаль цалкам, у 95 працэнтах, разрабленыя і разбураныя немцамі. Цяпер на фабрыках і камбінатах горада працуе больш чым 35 тыс. чалавек, а гадавая іх прадукцыя ацэньваецца на звыш 13 мільярдаў зл. Адбудавалі і перабудавалі мы прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана і Беластоцкую фабрыку плюшу. На прамысловай карце Беластока паявіліся зусім новыя прадпрыемствы: тэкстыльны камбінат „Фасты”, фабрыка станкабудаўнічага абсталявання „Ухвыты”, прадпрыемства машын і прылад для спажывецкай прамысловасці „Спомаш”, а таксама мясаперапрацоўчы камбінат і нізкатэмпературныя склады.



*Прэзідэнт горада Беластока Аляксандр Чуж.*

*Фота В. Рудчыка*

Тавары і вырабы з маркай беластоцкіх прадпрыемстваў вызначаюцца высокай якасцю. Іх ахвотна купляюць у Савецкім Саюзе, Злучаных Штатах Амерыкі, Францыі, ФРГ, ГДР, у Румыніі і ў іншых краінах.

— Беласток, бы магніт, цягне да сябе ўсё новых жыхароў...

— ...якія хочуць і павінны жыць з выгадамі і культурна...

— З гэтымі выгадамі, дазвольце заўважыць, бывае ў нас яшчэ па-рознаму...

— Але не забывайце, што амаль 60 працэнтаў насельніцтва нашага горада жыве ўжо ў новым дзяржаўным або кааператыўным будаўніцтве. Калі паглядзець на Беласток з вышыні, дык убачым цэлыя новыя жыллёвыя пасёлкі: 1000-годдзя, Пяста, Маладых, Міцкевіча, Сянкевіча, Бэма, Марчук, Антанюк, Цэнтр і іншыя. Усюды шматпавярховыя жылыя гмахі, зусім новыя вуліцы, шматкаляровыя неонныя рэкламы, яркае, ртутнае асвятленне вуліц... Звыш 90 прац. жыхароў карыстаецца водаправоднай сеткай, 60 прац. мае цэнтральнае ацяпленне, 52 прац. — газ. Тут, карыстаючыся нагодай, хацеў бы яшчэ раз падзякаваць нашым сябрам з Савецкай Беларусі, што дапамаглі нам абяспечыць горад прыродным газам.

— Якія перамены здзейсніліся ў Беластоку ў галіне асветы і культуры?

— Беласток стаў вядомым у краіне акадэмічным горадам. Цяпер працуюць у нас тры вышэйшыя навучальныя ўстановы, у якіх у мінулым акадэмічным годзе вучылася 5600 студэнтаў, самая вялікая з іх — Беластоцкая медыцынская акадэмія славіцца ў навуковым свеце высокімі дасягненнямі.

Акрамя таго ў Беластоку ёсць: 29 пачатковых школ, 6 агульнаадукацыйных ліцэяў і 89 тэхнікумаў і няпоўных сярэдніх прафесіянальных школ.

Для культурных патрэб насельніцтва горада працуюць два тэатры — драматычны і тэатр лялек, а таксама Дзяржаўны сімфанічны аркестр.

У гэтым годзе ў падарунку на Першамайскае свята жыхары нашага горада атрымалі рэтрансляцыйную станцыю для другой тэлевізійнай праграмы, а напярэдадні сёлетняга ліпеньскага свята распачаў працу новы беластоцкі радыётэлевізійны цэнтр.

— Не было яшчэ пра ахову здароўя...

Аб здароўі беластаччан клапоціцца цяпер звыш 1000 лекараў і 130 стаматолагаў, якія працуюць у 5 бальніцах і 37 раёнах, прызаводскіх і спецыялістычных амбулаторыях.

— Як вы ацэньваеце ўдзел насельніцтва Беластока ў разбудове свайго горада?

— Найлепшым доказам самаахвярнасці беластаччан з'яўляецца іх грамадская праца. Асабліва трэба тут сказаць пра папулярную акцыю **„Жыхары Беластока — свайму гораду”.** Вартасць працы, выкананай грамадскім чынам у гэтым годзе, мы аблічваем на звыш 60 мільёнаў зл. Дзякуючы вось гэтаму, Беласток пабагацеў, між іншым, на прыгожы амфітэатр, у якім змесціцца 5 тысяч гледачоў.

— Дзякую за гутарку.

*Інтэрв'ю ўзяў* **Віктар Рудчык**



*У аднаўленым палацы Браніцкіх змяшчаецца Беластоцкая медыцынская акадэмія.*

*Фота Я. Цялушэцкага*






## Сустрэчы з землякамі






Іван Мікша — ураджэнец вёскі Пілікі, што ад Бельска ў 4 км. Там на гаспадарцы жылі яго бацькі, там правёў ён сваё дзяцінства, там да сённяшняга дня жыве і працуе на гаспадарцы яго родны брат, да якога ён не менш як два разы ў год прыязджае з Лодзі. Усе ведаюць, што іх аднавясковец з'яўляецца добрым спецыялістам у медыцынскай справе, што лечыць нос, горла і вушы. Ларынголагам яго рэдка хто там называе, слова гэтае гучыць вельмі ж павучонаму.

Іван Мікша быў адным з першых выпускнікоў Бельскай беларускай гімназіі. Закончыў яе ў 1946 годзе. Да сёння вельмі сардэчна ўспамінае дырэктара Яраслава Кастыцэвіча, які вучыў яго рускай і лацінскай мове яшчэ ў 1940—1941 г. у бельскай дзесяцігодцы.

Пасля наступіла пекла нямецкай акупацыі. На ўсё жыццё ўрэзалася ў яго памяць трагедыя людзей у Пiліцкім лесе. Ён збіраў грыбы. Раптам непадалёку затрымаліся дзве грузавыя машыны, якімі немцы прывезлі людзей на расстрэл. Прытаіўшыся за кустамі, ён бачыў, як гэтых няшчаснікаў, звязаных дротам за рукі, немцы спіхалі з самаходу, таўклі прыкладамі і стралялі па іх, а бездапаможныя людзі плакалі і выкрыквалі развітальныя словы...

Калясо гісторыі раздавіла нямецкую акупацыю. Савецкія войскі вызвалілі ў 1944 годзе Беласточчыну. Будучы навучэнцам беларускай гімназіі, Іван Мікша (у 1945 г.) быў прыняты ў рады Польскай рабочай партыі. Атрымаў заданне арганізаваць маладзёжную арганізацыю „Саюз барацьбы маладых” (ЗВМ). Разам з іншымі пэпээраўцамі ездзіў тады ў Гайнаўку і Белавежу. У Галадоўскім лесе абстраляла іх банда. Гэта была першая сустрэча Івана Мікшы са смерцю.

У 1946 годзе закончыў ён гімназію і думаў, куды пайсці далей вучыцца. Вырашэнне гэтага складанага пытання наступіла зусім нечакана. Былы вучань гімназіі Іван Верамеюк прыехаў у водпуск і зайшоў у школу. Быў прыгожа апрануты, у мундзіры, з лампасамі, і заахвоціў паступіць вучыцца туды, дзе ён, гэта значыць у фельчарскую вайсковую школу ў Лодзі.

— І паехалі мы — я, Олек Кадлубоўскі, Юрка Гаўрылюк, Мікалай Сабалеўскі, Іван Белаказовіч, Вячаслаў Фірсовіч. Прынялі ўсіх нас.

— Будучы навучэнцамі фельчарскай школы, — расказваў далей І. Мікша, — былі мы адначасова абаронцамі маладой народнай улады. Перад выбарамі (студзень 1947 года) нашу баявую групу накіравалі да барацьбы з бандытамі ў Ке-

**(Працяг на стар. 3)**

# ШТО НОВАГА?

## У ІНСЕМІНАТАРАЎ

Нядаўна ў Беластоку адбылася краёвая курса-нарада работнікаў інсемінацыі. Вітаючы ўдзельнікаў нарады, беластоцкі ваявода Зыгмунт Спрыха падкрэсліў, што такія кантакты асабліва патрэбны Беласточчыне, паколькі імкнецца яна стаць харчовым басейнам краіны з высока развітай жывёлагадоўляй.

У Польшчы існуюць 62 прадпрыемствы па асемяненню жывёлы, якія маюць 13.170 пунктаў, рассеяных па вёсках. Слабым іх бокам аднак з'яўляецца тое, што толькі 30 прац. інсемінатараў з'яўляюцца штатнымі работнікамі.

У галіне інсемінацыі прадбачваюцца вялікія змены. Інсемінатары яшчэ ў гэтым годзе атрымаюць новыя інсемінацыйныя прылады (2 мільёны штук інсемінацыйных піпет). У будучым годзе яны будуць поўнасцю забяспечаны гэтымі прыладамі.

Прадбачваецца тэлефанізацыя інсемінацыйных пунктаў, так, каб гаспадар мог выклікаць інсемінатара па тэлефону. Каб аблегчыць транспарт, міністр сельскай гаспадаркі звярнуўся да міністра гандлю з просьбай прызнаць дадатковы надзел аўтамабіляў. Крэдыт купляючым забяспечаны ў банках СОП.

Сёлета прадбачваецца асеменіць 40 прац. кароў. Аднак ужо ў 1980 годзе інсемінацыяй будзе ахоплена 95 прац. жывёлы. Пры гэтым трэба сказаць, што не прадбачваецца павелічэнне колькасці „закладаў", а наадварот, змяншэнне. Прадбачваецца, што адзін пункт павінен мець у сваім раёне не менш чым 1000 штук кароў. За правільнасцю паслуг будуць сачыць інструктары па справах разроду і асемянення, а гмінныя ўпраўленні павінны ім даць кватэры.

Навінкай мае быць стварэнне т.зв. банкаў насення. Тут будзе склад насення з усяго ваяводства, і адсюль будуць яго развозіць спецыяльныя аўтамабілі.

Паколькі метад інсемінацыі будзе распаўсюджан і на свінагадоўлю, у гэтай справе ёсць ужо канкрэтныя планы. Прадбачваецца пабудова „закладаў" па асемяненню свіней, апрацаваны тыповы праект гэткай станцыі. Будова іх будзе распачата яшчэ ў 1975 годзе і закончана ў першых гадах будучай пяцігодкі. У 1980 годзе будзе асемянёна 200 тыс. свінаматак.

Чаму такое вялікае значэнне прыдаем інсемінацыі?

Трэба ведаць, што вялікая частка нашага экспарту выводзіцца з жывёлагадоўлі, ці, калі хто хоча, кожная чатырнаццатая дэвізовая залатоўка паходзіць з продажу жывёлагадоўчых прадуктаў. Карысцнай з'явай апошняга часу з'яўляецца тое, што пастаўкі мяса былі ў гэтым годзе (гаспадарчым) на 15 тыс. тон большыя ад прадугледжаных на канец гэтай пяцігодкі.

**А. Карпюк**

# БГКТ ХРОНІКА

● Нядаўна адбылося пасяджэнне прэзідыума гарадскога праўлення БГКТ у Беластоку, на якім была абмеркавана справаздача аб дзейнасці аддзела ў мінулым паўгоддзі (прадставіла яе сакратар аддзела Валя Цімашук) і зацверджан план працы на другое паўгоддзе 1974 года. Да найважнейшых спраў у другім паўгоддзі трэба аднесці далейшыя мерапрыемствы, звязаныя са святкаваннем 30-ай гадавіны народнай Польшчы, і арганізаванне калектываў мандаліністак і тэатральнага, а таксама гуртка фотааматараў. На гэтым жа пасяджэнні прэзідыум аддзела разгледзеў 58 членскіх дэкларацый і прыняў новых членаў у рады БГКТ.

● 14 ліпеня ў Крынках на Сакольшчыне адбыўся народны фэстын БГКТ, прысвечаны юбілейнай даце нашай Айчыны. Аб ім чытайце справаздачу ў наступным нумары „Нівы".

● 14 ліпеня ў вясковым доме культуры ў Калодне (Беластоцкі павет) выступілі з канцэртам харавы калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку (кіруе Эльжбета Жукоўская) і эстрадная група БГКТ з вёскі Плёскі, што ў Бельскім павеце. (мх)



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА

# Скарбы сельскага настаўніка

Гэтую фатаграфію настаўнік Навасадскай школы Мікалай Трушкін захоўвае як дарагую рэліквію. На здымку ён побач з легендарным лётчыкам, Героем Савецкага Саюза Аляксеем Марэсьевым. У час Вялікай Айчыннай вайны А. Марэсьеў і М. Трушкін ваявалі ў адным падраздзяленні. Нядаўна ветэраны сустрэліся і зрабілі на памяць здымак.

Сустрэча адбылася не выпадкова. Сельскі настаўнік большую палавіну свайго жыцця аддаў падарожжу. Настануць канікулы ў школе, Мікалай Мікалаевіч бярэ рукзак — і ў дарогу. Яго цікавіць усё: і каштоўныя дакументы мінулай вайны, і розныя маркі, манеты. У ходзе падарожжаў педагог вывучае родны край. Ён пабываў ва ўсіх саюзных рэспубліках, у многіх абласцях РСФСР. Штогод — новыя сустрэчы з калекцыянерамі, новыя знаёмствы. Пабываў Мікалай Трушкін і ў станіцы Вешанскай у Міхаіла Шолахава.

Нядаўна мы наведалі сельскага педагога.

— Больш 20 год займаюся калекцыяніраваннем, — гаворыць гаспадар, — люблю гэты занятак.

І ён паказвае свае скарбы. Мноства пухлых альбомаў з маркамі. У іх — каля сарака раздзелаў, кожны — новая старонка гісторыі. Яны прысвечаны станаўленню маладой Савецкай дзяржавы, У. І. Леніну, камсамолу, Вялікай Айчыннай вайне, саюзным рэспублікам. Тут маркі ЗША, Францыі, Англіі і многіх іншых дзяржаў.

Багатая ў яго і калекцыя карцін. У некалькіх папках „змясцілася" ўся Трэцьякоўская галерэя, копіі карцін, што знаходзяцца ў Эрмітажы. Каля 4 тысяч! Настаўнік дастае дзесяткі шкатулак. У іх захоўваюцца манеты. Глядзіш на іх і паглыбляешся на мноства вякоў у гісторыю. Цяжкія, сярэбраныя рублі, з вялізным арлом, і малюсенькія залатыя манеткі. Манеты з дзірачкай, якія можна нанізаць на нітку, і няправільнай круглай формы. Грашовыя купюры. Невялікіх размераў і такія, што, зрабіўшы з іх кулёчак, можна ўмясціць некалькі кілаграмаў цукерак. Самая арыгінальная — зложаная гармошкай, расцягнеш — не менш метра...

З багатай калекцыяй знаёмяцца аднавяскоўцы, школьнікі, госці.




## У БЕЛАСТОКУ

Усё падрыхтавана да жніва. Лепш працуе гандаль, больш жніўных прылад у сельгасгуртках, на час адрамантавалі трактары, снопавязалкі і камбайны ПОМ-ы. Цікава толькі, як выйдзе гэтае спозненае жніво?

Калі мы наведалі ПОМ-Беласточак у пачатку ліпеня, ішлі канчатковыя работы пры рамонце.

**Фота А. Карпюка**

*Механік Уладзіслаў Кузьміч робіць гарантыйны агляд трактара „Урсус Ц-385".*

# ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

*Ад 1-га жніўня гэтага года будзе абавязваць закон з 24 мая 1974 г. аб перадачы сельскіх гаспадарак ва ўласнасць дзяржавы за пенсію і грашовыя сплаты. Закон па-новаму і карысна для сялян рэгулюе справу, так важную для старэйшых людзей, якія не могуць ужо працаваць у сельскай гаспадарцы. У чарговых нумарах „Нівы" паінфармуем чытачоў аб асноўным змесце новага закону.*

## ПЕНСІЯ ДЛЯ СЯЛЯН

Селянін можа перадаць дзяржаве сельскую гаспадарку за пенсію ва ўмовах, калі:

1) гаспадарка мае прынамсі 2 га ўраўнай зямлі або лесу,

2) мужчыне споўнілася 65 год, а жанчыне 60 год, або залічаны яны да адной з груп інвалідаў згодна з законам аб пенсіях для працаўнікоў і іх сямей.

Нельга перадаваць дзяржаве за пенсію толькі частку гаспадаркі. Аднак селянін, які перадае гаспадарку, можа затрымаць для сябе будынкі. У асноўным, згодна з грамадзянскім кодэксам, будынкі з'яўляюцца ўласнасцю таго, на чыім пляцы яны пабудаваны. У гэтым аднак выпадку пляц пераходзіць ва ўласнасць дзяржавы, будынкі астаюцца ўласнасцю селяніна. Селянін можа будынкі прадаць. У гэткім выпадку дзяржаве прыслугоўвае першынство куплі. Дзяржава пры гэтым плаціць паводле ацэнкі, зробленай дзяржаўным страхавым прадпрыемствам.

Калі селянін карыстаецца сам з будынкаў, пасля яго смерці будынкі астаюцца ў карыстанні яго жонкі. У выпадках, калі селянін жонкі не пакінуў, або калі засталася жонка, то пасля яе смерці — будынкі пераходзяць ва ўласнасць дзяржавы. Дзеці будынкаў не наследуюць. Аднак жонка можа пасля смерці мужа карыстацца з будынкаў толькі пры ўмове, калі яна мае права на пенсію для сялян.

Незалежна ад будынкаў, па просьбе селяніна, які аддае гаспадарку за пенсію, прыдзяляецца яму ў бясплатнае карыстанне ўчастак зямлі — не больш, чым 0,5 га. Калі права на пенсію прыслугоўвае мужу і жонцы, то ўчастак прыдзяляецца да супольнага карыстання.

Дзяржава можа прымусова забраць сельскую гаспадарку і вызначыць пенсію, калі гаспадарка занядбаная, а селянін мае: мужчына 60 год, а жанчына 55 год, або залічаны да адной з інвалідных груп.

Калі гаспадарка з'яўляецца супольнай уласнасцю некалькіх асоб, то можа быць перададзена дзяржаве толькі пры згодзе ўсіх саўладальнікаў. Аднак непатрэбная пры гэтым згода саўладальніка, для якога праца на гэтай гаспадарцы не з'яўляецца асноўнай крыніцай утрымання.

Праца ў сельскай гаспадарцы лічыцца асноўнай крыніцай утрымання, калі аблічаны для падатку даход з гаспадаркі з'яўляецца большы, чым даход з іншых крыніц. Даход з сельскай гаспадаркі і даходы з іншых крыніц аблічаюцца на аснове даных за апошнія тры гады.

Вышэй сказанае адносіцца таксама да мужа і жонкі. Гаспадарка можа быць перададзена дзяржаве за пенсію толькі пры супольнай згодзе, прычым не патрабуецца згода мужа або жонкі, для якіх галоўнай крыніцай утрымання з'яўляюцца даходы не з сельскай гаспадаркі.

Нельга перадаць дзяржаве гаспадарку, калі на ёй працуюць сыны або ўнукі ўласніка гаспадаркі і калі гэта праца з'яўляецца асноўнай крыніцай іх утрымання. Аднак згода саўладальнікаў, мужа або жонкі і дзяцей або ўнукаў непатрэбная, калі гаспадарка мае нізкі ўзровень прадукцыі, або пагражае ёй зніжэнне ўзроўню прадукцыі.

**В. Склубоўскі**

# Лепшае забеспячэнне турыстаў

З кожным годам усё больш турыстаў наведвае Беласточчыну. Да абслугоўвання іх у сёлетнім сезоне добра падрыхтавалася прадпрыемства РСВ „Прэса-Кніжка-Рух". Адкрывае яно 16 новых кіёскаў „Рух" і пяць гандлёвых павільёнаў. Усе 593 кіёскі добра забяспечаны турыстычнымі выданнямі: інфарматарамі, даведнікамі, картамі гарадоў, паасобных ваколіц, турысцкіх шляхоў. Значна лепш, чымсьці ў мінулым годзе, кіёскі „Рух" забяспечаны рознымі сезоннымі таварамі. (ця)

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 28.VII.**
6.50 Tech. Rol. 7.40 Przyp. radz. 7.50 Now. w domu i zagr. 8.15 Chrońmy zbiory przed pożarem. 8.30 Bieg po zdrowie. 8.40 Pr. dnia. 8.45 Z życia nicponia — film fab. NRD. 10.15 Antena. 10.30 Klub Sześciu Kontyn. 11.15 Studio Muzyki Rozr. 11.50 Ex libris. 12.00 Dziennik. 12.20 Pr. wiejski. 12.35 Grająca Tabakierka. 13.05 Przegl. polonijny. 13.35 W starym kinie — Dzikie orchidee — film arch. z G. Garbo. 14.50 Nie tylko dla pań. 15.20 Postaw się — nie zastaw się. 16.10 Los. Toto-Lotka. 16.25 Polska 74. 17.15 Refleksje obywat. 17.30 Tele-Echo. 18.15 Program filmowy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Paryska taksówka — film franc. 21.40 Sam na sam z Tadeuszem Łomnickim. 22.40 Informac. magazyn sport.

**Poniedziałek 29.VII.**
16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Echo stadionu. 17.05 TELEFERIE. 18.15 Kurier Białost. 18.30 Migawki Opolskie. 18.45 Kronika Warsz. i Maz. 19.00 Człowiek starego kina. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: R. Frelek i Wł. Kowalski — „Poczdam 1945". 21.55 Pr. muz. 22.25 Dziennik.

**Wtorek 30.VII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Wakacje w domu — film ang. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Spacerkiem po kinach. 17.10 Forum Polon. 17.40 Dla młodzieży. 18.15 Kronika Warsz. i Maz. 18.35 Eureka. 19.05 Przyp., radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Wakacje w domu — film ang. 21.15 Wiadom. sport. 21.20 Rep. z Polskiej Wystawy w Moskwie. 22.00 Spotkanie z Marianem Jonkajtysem. 22.35 Dziennik.

**Środa 31.VII.**
9.30 Matem. w szkole. 10.00 Zamach — film fab. pol. 11.20 Matem. w szkole. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dziennik. 16.30 Dziwna ryba matsugaro — film dok. jap. 17.20 Poezja i realizm w polskiej grafice współczesnej. 17.25 Los. Małego Lotka. 17.35 I Polskie Targi Estradowe. 18.20 Kronika Warsz. i Maz. 18.40 Portret Leona Kruczkowskiego — dok. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Ekran Wspomnień: Zamach — film. fab. pol. 21.50 Wiadom. sport. 22.00 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 1.VIII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Kanał — film fab. pol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEFERIE. 17.55 Kronika Warsz. i Maz. 18.15 Estrada Poetycka. 18.55 TEST. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Ekran Wspomnień: Kanał — film fab. pol. 22.10 Wiadom. sport. 22.20 Czym żyje świat. 22.50 Dziennik.

**Piątek 2.VIII.**
10.00 Janosik, odc. II. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Arie i duety. 17.00 Wiem wszystko — teleturniej. 17.25 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.50 Studio Wakac. Tel. Młodych. 18.20 Kronika Warsz. i Maz. 18.40 Dialogi histor. 19.10 Przypom., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik, odc. II. 21.05 Panorama. 21.45 Wiadom. sport. 21.50 Teatr TV. A. Strindberg — „Wierzyciele". 23.00 Dziennik.

**Sobota 3.VIII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Fort Apache — film fab. USA. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Program I prop. 16.30 Dziennik. 16.40 Sylwetka kompozytora — Wojciech Kilar. 17.30 Przypom., radz. 17.35 Mam pomysł. 18.00 Z kamerą wśród zwierząt. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Fort Apache — film fab. USA. 22.25 Dziennik. 22.45 Sport. magazyn sprawozd. 23.15 Rytmy południowo-amerykańskie.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 26.VII** — 7.30 Dla dzieci. 8.20 Film fab. 9.30 Sport. 15.05 Czterej pancerni i pies. 17.15 Film fab. 18.30 Piłka nożna („Dynamo" Kijów — „Kajrat" — Ałma-Ata).

**Sobota 27.VII** — 7.00 Pr. dnia. 8.30 Film fab. 10.40 Zrobiono na Białorusi. 11.10 Mozaika muz. 11.50 Film anim. 12.35 Film fab. 14.00 Sport. 16.45 Film dokum. 18.05 Spektakl.

**Niedziela 28.VII** — 7.00 Pr. dnia. 9.30 Teatr lalek. 10.50 Film anim. 11.00 Pr. dla rolników. 11.45 Koncert. 12.15 Film fab. 13.35 Dżudo. 18.00 Teatr miniatur.

# КІНО

**Białowieża** Polowanie na mężczyznę — franc. 30—31.VII. Nauczyciel śpiewu — radz. 1—2.VIII. Spalony las — rum. 3—4.VIII.

**Czeremcha** Własne zdanie — bułg. 30—31.VII. Wujaszek Wania — radz. 3—4.VIII.

**Czyże** Front wyzwolenia — pol. El Dorado — USA 31.VII—4.VIII.

**Dubicze Cerkiewne** Góry, rzeki, ludzie — pol. Mordercy w imieniu prawa — franc. 31.VII—4.VIII.

**Gródek** Pozwólcie startować — radz. 3—4.VIII.

**Kleszczele** Hajducy kapitana Angelo — rum. 30—31.VII. Twarz anioła — pol. 1—2.VIII. Nieszczęście Alfreda — franc. 3—4.VIII.

**Michałowo** Szpieg Szoguna — japoń. 30—31. Śmierć czarnego króla — czes. 1—2. Sekret — pol. 3—4.

**Mielnik** Przygody na wagarach — NRD 30—31.VII. Prom — pol. 31.VII.—2.VIII. Doktor Popaul — franc. 3—4.VIII.

**Milejczyce** Narkotyk — franc. 30—31.VII. Prywatny dedektyw — angl. 1—2.VIII. Echa dawno minionych dni — radz. 3—4.VIII.

**Narew** Liliowa akacja — węg. Ściana czarownic — pol. 31.VII—4.VIII.

**Narewka** Śledztwo skończone proszę zapomnieć — włosk. Wykryć szpiega — radz. 31.VII—4.VIII.

**Nurzec** Kapitan Korda — czes. 31—31.VII. Wspomnienia z przeszłości — pol. 1—2.VIII. Lala — włos. 3—4.VIII.

**Orla** 10 dni bezpłatnego urlopu — bułg. Zazdrość i medycyna — pol. 31.VII—4.VIII.

**Rajsk** Smic, smac, smoc — franc. Telegram — radz. 31.VII—4.VIII.

**Suchowola** Mania wielkości — franc. Kto wierzy w bociany — pol. 31.VII—4.VIII.

B.Z.Graf. zam. 2005 O-3

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



*На выстаўцы беластоцкага народнага мастацтва ў Гарадскім упраўленні Кракава.*

# БЕЛАСТОЧЧЫНА ЛЯ КРАКАЎСКІХ СУКЕННІЦ

Ужо другі раз старажытны Кракаў прымаў у сваіх мурах народных умельцаў і іх творы з усяе Польшчы. На сёлетні ж II Агульнапольскі кірмаш народнага мастацтва прыбыло асабліва многа і творцаў, і вырабаў, і гасцей. Арганізацыйны камітэт гэтага красачнага мерапрыемства, у які ўвайшлі гаспадары Кракава, прадстаўнікі творчых і гандлёвых арганізацый, а таксама выдатныя польскія этнографы на чале з дырэктарам Этнаграфічнага музея ў Кракаве Э. Валігурам — старшынёй камітэта, — паклапаціліся, каб кірмаш стаў сапраўдным агульнадзяржаўным фестывалем народнага мастацтва. Спадарожнічала яму мноства выставак, выступленняў самадзейных фальклорных калектываў, паказ фальклорных фільмаў, а народныя ўмельцы: ткачыхі, ганчары, разбяры, мастакі дэманстравалі сваю творчасць не толькі за прылаўкамі ларкоў, але таксама пры кроснах, на ганчарным коле, з разцом ці палітрай ў руках.

У залах Гарадскога ўпраўлення Кракава былі арганізаваны выстаўкі: сучаснай народнай разьбы, польскіх кветак і народных цацак, сучаснага польскага жывапісу на шкле, беластоцкага народнага мастацтва, лавіцкага народнага мастацтва, сучаснага польскага фальклорнага плаката. У залах іншых устаноў дэманстраваліся сакольскія дзвюхасноўвавыя дываны (выстаўка Этнаграфічнага музея ў Варшаве), працы непрафесіянальнага мастацтва (арганізаваў Інстытут мастацтва Польскай акадэміі навук), прыклады народных інспірацый у ільняной прамысловасці (экспазіцыя Інстытута прамысловага ўзорніцтва) і шэраг іншых. У Сукенніцах адкрылася Пастаянная галерэя народнага мастацтва.

На працягу пяці дзён (30 чэрвеня — 4 ліпеня) на Галоўным рынку і па вузенькіх вулачках Старога Мяста снаваў бясконцы натоўп кракавян, прыезджых з розных куткоў краіны і гасцей з-за мяжы, а ўсё патанала ў народных мелодыях калектываў „Каменка", „Кракаўскага вяселля", „Гальнага", „Новага Сонча", „Апочна" і іншых.

У спеўным і каляровым свяце праўдзівай народнасці прыняла таксама ўдзел Беласточчына. І хоць яна не займала вядучага месца, як гуральскі рэгіён, але ўсё ж яе прысутнасць на кірмашы была значная. Сярод звыш 180 экспанатаў, што экспанаваліся на выстаўцы беластоцкага народнага мастацтва, вылучаліся сваёй прыгажосцю, густоўнасцю форм і высокім майстэрствам выканання розныя вырабы з саломы з Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў, сакольскія дываны і паяскі, вырабы з белага гладкага дрэва з Белавежы і Беластоцкага павету, рэзбленыя ў дрэве каляровыя птушкі Я. Вільчэўскага з вёскі Дальні Лес Аўгустоўскага павету, розныя кошыкі з Лукі і Семяноўкі Гайнаўскага павету, кавальскія вырабы з ваколіц Саколкі, Дубровы Беластоцкай і Бранска Бельскага павету, гладышы і іншая кераміка з вёскі Чорная Касцельная Беластоцкага павету.

У Пастаяннай галерэі народнага мастацтва побач з сакольскімі тканінамі стаяў таксама густоўны кошычак з абкараванай лазы з ваколіц вёскі Семяноўка.

У беластоцкім ларку, што размясціўся непадалёк ад старадаўніх сцен Сукенніц, людзі вырывалі сабе з рук вазачкі са славутай зялёнай беластоцкай керамікі, абрусы, сурветкі, макаткі, ходнікі, бежнікі. Цэны не былі нізкія, аднак арыгінальнасць і непаўторная прыгажосць вырабаў беластоцкіх народных умельцаў пакарала ўсіх.

— Кракавяне, хоць надта ашчадныя, — заўважыў кіраўнік ларка Л. Луцкевіч з Беластоцкага прадпрыемства народных вырабаў, — усё ж набывалі нашы вырабы надта ахвотна. Ужо ў першы дзень кірмашу мы прадалі вырабаў на звыш 37 тысяч злотых. У параўнанні з мінулым годам, сёлета заўважаецца значна большае зацікаўленне нашымі таварамі. Прыходзяць таксама мінулагоднія пакупнікі, каб павялічыць свае набыткі. Ля ларка, як бачыце, — натоўп. Шкада, што арганізатары не далі нам двух або і болей пунктаў продажу.

Народная ткачыха А. Ярашэвіч з Янава Сакольскага павету ўжо за першыя дзве-тры гадзіны прадала большасць сваіх дзвюхасноўвавых дываноў. Людзі густа абкружалі ларок, дзе прадавала свае сейпакі і дзвюхасноўвавыя дываны П. Юхневіч з Аўгустоўскага павету. Каля кросен, на якіх С. Гера з-пад Янава ткала цудоўную дзвюхасноўвавую макатку, жанчыны і мужчыны цэлымі гадзінамі не адрывалі вачэй ад умелых рук ткачыхі, што вычароўвалі дзівосныя народныя ўзоры.

Праўда, шкада, што з эстрады ля Ратушовай вежы не пачуліся пераліўчатыя мелодыі беластоцкіх фальклорных калектываў, што не выступілі там нашы казачнікі, а сярод славутых разбяроў не было нашых народных майстроў разца. Спадзяемся аднак, што на III Агульнапольскім кірмашы народнага мастацтва ў 1975 г. у Кракаве Беласточчына выступіць яшчэ больш багата. Яна ж дзякуючы сваёй арыгінальнай народнай творчасці заслугоўвае на тое, каб займаць адно з цэнтральных месц на гэтым казачна каляровым агульнапольскім фестывалі народнага мастацтва.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Пелагея Юхневіч з Аўгустоўскага павету дэманструе пакупнікам свой сейпак.*



*Вырабы з белага гладкага дрэва з ваколіц Белавежы і Беластоцкага павету на выстаўцы беластоцкага народнага мастацтва ў Гарадскім упраўленні Кракава.*

Пачатак на стар. 1

# ★ ДОКТАР ★

лецкім ваяводстве. Там у час аднаго з баёў я другі раз сустрэўся са смерцю.

Пасля заканчэння фельчарскай школы Іван Мікша паступае ў вайсковую, так званую акадэміцкую роту ў Медыцынскім інстытуце Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. У 1951 годзе былі ліквідаваны вайсковыя акадэміцкія роты, а пры Медыцынскім інстытуце ў Лодзі быў створан факультэт вайсковай медыцыны, з якога пазней вырасла Вайсковая медыцынская акадэмія (ВАМ).

Іван Мікша прадаўжаў далей вучобу на гэтым факультэце. Пасля заканчэння яго ў 1954 годзе накіраваны быў на Хель, дзе лячыў маракоў. З гэтага часу распачалася прафесіянальная дзейнасць былога выпускніка беларускай гімназіі ў Бельску. У 1959 годзе накіроўваюць яго на гадавы курс удасканальвання вайсковых лекараў. Вось тады запрапанавалі яму працу ў шпіталі ВАМ у Лодзі, дзе працуе і да сёння. Пачаў асістэнтам: будучы старшым асістэнтам, атрымлівае I і II ступень спецыяліста-ларынголага, а ў 1970 годзе абараняе доктарскую дысертацыю. З'яўляецца цяпер ад'юнктам, робіць шмат аперацый вайсковым і цывільным.

— Як вы адчуваеце сябе ў той час, калі пачынаецца рабіць аперацыю ў носе, горле ці вуху? — запытаў я свайго субяседніка.

— Заўсёды ідзеш з хваляваннем, бо няма аднолькавых аперацый. Кожная нечым адрозніваецца. Зрэшты, і чалавек кожны іншы, іншыя бываюць у яго арганізм, псіхіка, перажыванні. Вельмі важна, каб падрыхтаваць пацыента да аперацыі, дабіцца таго, каб ён яе не баяўся, каб верыў, што пасля яе будзе лепш. Калі гэта ўдаецца — і раны загойваюцца хутчэй, — выясніў мне наш зямляк.

Др І. Мікша шмат часу прысвячае навуковай працы. Апублікаваў ён у розных медыцынскіх часопісах у нашай краіне і за граніцай 36 навуковых прац.

Неабходна падкрэсліць яшчэ і тое, што цікавіцца ён спартыўнай медыцынай, а канкрэтна — алфакталогіяй — галіной медыцынскай навукі, звязанай з нюхам чалавека. З'яўляецца старшынёй Лодзінскага аддзела таварыства спартыўнай медыцыны.

— А самі вы спортам займаецеся? — пытаю.

— Люблю іграць ў сяткоўку, — адказвае доктар.

— А можа ёсць у вас хоббі? — гляджу на яго з надзеяй.

— Не паверыце — пішу вершы. Пішу так, для сябе, — адказвае ён такім тонам, якім гаворыць аб малаважных справах, і пераходзіць на іншыя тэмы.

Др Мікша з задавальненнем гаворыць аб з'ездзе выпускнікоў Бельскай беларускай гімназіі і ліцэя; прыедзе на другі дзень, бо 28 верасня неабходна яму быць на з'ездзе медыкаў.

**М. Хмялеўскі**

# Належыцца падзяка

Калектыў песні і танца „Белавежа" карыстаецца вялікай папулярнасцю на Гайнаўшчыне.

Актыўным членам калектыву з'яўляецца кіраўнік белавежскага ГОК-у Анна Байко; яна выконвае функцыю няштатнага арганізацыйнага кіраўніка, часта вядзе канферанс'е, ад імя хору ўладжвае яго справы.

Аляксандр Лукашук, мастацкі кіраўнік харавога калектыву, прыязджае на рэпетыцыі з Гайнаўкі. Яны адбываюцца ў асноўным вечарам, і часта няма чым вяртацца ў Гайнаўку. А Янку Крупу — мастацкаму кіраўніку балетнай групы, з Беластока ў Белавежу на рэпетыцыі трэба праехаць 100 км. Прыходзіцца ў Белавежы начаваць.

Жанчынам — Эльжбеце Сац, Марыі Хіцкевіч і Анне Ламаско ўжо за 60 год. Маюць яны шмат дамашніх спраў, але заўсёды знаходзяць час і на рэпетыцыі, і на выезды з канцэртамі.

А супругі Марыя і Васіль Байко, а таксама Вольга і Аляксей Байко ўмеюць так разлажыць свае сямейныя і прафесіянальныя абавязкі, каб хапала часу на ўдзел у мастацкай самадзейнасці.

У 54-асабовым калектыве ёсць шмат моладзі, аб якой кіраўнікі калектыву выказваюць шмат цёплых слоў.

Члены калектыву „Белавежа" працуюць у 14 установах Белавежы. Начальнікі гэтых устаноў ідуць на руку самадзейнікам, асабліва, калі трэба выехаць на канцэрт, і за гэта належыцца ім таксама сардэчная падзяка. (мх)

 



НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## ФУТБАЛІСТЫ З КАШАЛЁЎ

Вядомая на Бельшчыне футбольная каманда з вёскі Кашалі. Актыўна ўдзельнічае яна ў спартыўных розыгрышах з іншымі камандамі. Памятны здымак зрабілі мы ў Орлі. Кашалёўскія футбалісты перамаглі арлянскую каманду з лікам 2:1.

Выступалі ў складзе: Яраслаў Майстровіч, Анатоль Таранта, Анатоль Орда (варатар), Пётр Зрубскі, Сцяпан Лушч, Павел Сакалоўскі, Уладзімір Жужаль, Юрка Гонта, Аляксандр Каліш, Яўген Каляда, Ян Брэчка.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## РАВЕСНІК АЙЧЫНЫ

Галоўны бухгалтар у кожнай установе і на кожным прадпрыемстве залічаецца да найважнейшых асоб. У сідраўскім ГС-е гэтую адказную функцыю выконвае Лявон Шчэрбач.

Што ён не толькі добры спецыяліст у сваёй прафесіі, але таксама добры арганізатар, гаварылі нам працаўнікі ГС-у. Яго прапановы заўсёды прыносяць карысць прадпрыемству.

Лявон Шчэрбач — равеснік нашай Айчыны. Нарадзіўся ён у 1944 годзе ў вёсцы Хілімонах (Дуброўскі павет). Моладзі народная ўлада адкрыла шырока дзверы да вучобы. Лявон Шчэрбач закончыў пачатковую школу, паступіў вучыцца ў эканамічны тэхнікум у Сувалках. Яму — выпускніку гэтага тэхнікума запрапанавалі працу ў бухгалтэрыі ГС-у ў Новым Дварь. Добра яму там працавалася. Быў ён задаволены сваёй працай, было задаволена ім кіраўніцтва гэтай установы. Праз нейкі час ён пайшоў служыць у армію. У маі 1971 года, калі вярнуўся з войска, узначаліў ён бухгалтэрыю ў сідраўсім ГС-е, што на Сакольшчыне.

Лявон Шчэрбач даўно ўжо мае матацыкл, якім ездзіць дамоў, у сваю родную вёску. Там памагае гаспадарыць сваёй маці.

Лявон Шчэрбач праяўляе таксама вялікае зацікаўленне культурнай дзейнасцю БГКТ. Яго выбралі ў праўленне дуброўскага аддзела БГКТ, а ў сваёй вёсцы ўзначальвае ён гурток БГКТ.

**М. Хмялеўскі**
**Фота Р. Сянько**



## У Ляўкове — другі корпус

У чэрвені гэтага года — на два месяцы раней запланаванага тэрміну пачаў працаваць на поўны ход другі корпус керамічнай фабрыкі ў Ляўкове Гайнаўскага павету.

Прадукуе ён 525 тысяч штук керамічных адзінак. Прадукцыйныя здольнасці яго могуць быць большыя. Усё залежыць ад таго, калі будуць дастаўлены больш сучасныя рабочыя станкі і навейшае сушыльнае абсталяванне.

Ужо цяпер ляўкоўская керамічная выпускае 30% агульнай прадукцыі беластоцкага аб'яднання керамічных прадпрыемстваў.

Тэкст і фота **Я. Ц.**



*Часамі трэба спыніць ход машыны і праверыць размер і якасць вырабу. Ля станка рабочыя ляўкоўскай керамічнай Ніна Бандарук і Кастусь Цялушэцкі.*

## З ПАСЛУГАМІ НА ВЁСКУ

Не будзем купляць на вёску ні халадзільнікаў, ні пральных машын, — гаварыла калісьці жанчына з Сямяціцкага павету прадстаўніку ВЗГС, — пакуль не арганізуеце на вёсцы рамонтныя пункты". Сваю думку матывавала тым, што ў выпадку, калі сапсуецца такі механізм, трэба ехаць за 20—30 кіламетраў на рамонтны пункт.

Хачам, каб вёска зраўнялася з горадам, каб мела ўсё пад рукою. З гэтым звязана і справа паслуг для насельніцтва. У гарадах гэта праблема вырашаецца ў асноўным пры дапамозе рознага тыпу спулдзельняў ды рамесніцкіх устаноў. На вёсцы — справа больш складаная. Тут асноўнай спулдзельняй, якая ўсебакова супрацоўнічае з гаспадаром, з'яўляецца гмінная спулдзельня.

На працягу апошніх 14 год вартасць паслуг вясковай спулдзельчасці ў нашым ваяводстве павялічылася з 1,6 мільёна зл. да 257 мільёнаў зл., а колькасць пунктаў з 90 у 1959 годзе — да 1032 у мінулым годзе. Колькасць месц працы ў паслугах за 14 год павялічылася ў сорак разоў. У гэтым годзе вартасць паслуг склала 280 мільёнаў зл., а ў канцы гэтай пяцігодкі складзе 310 мільёнаў.

У сувязі з такімі вялікімі планамі мусіць змяніцца арганізацыйная мадэль паслуговых пляцовак. Прадбачваецца, што ў кожным гмінным цэнтры будзе створана пяць паслуговых пляцовак, якія будуць весці гмінныя спулдзельні або іх філіялы. Будуць гэта: шматталінны рамонтны пункт, рамонтна-будаўнічая брыгада, экспазітура аўтатранспарту ВСТВ, цэнтр „Сучасная гаспадыня" і гмінны цэнтр бытавых паслуг. Гэтыя пляцоўкі будуць займацца шматлікімі паслугамі як для сельскай гаспадаркі, так і для насельніцтва вёскі.

Рэалізацыя гэтых планаў насоўвае шматлікія цяжкасці арганізацыйнага, інвестыцыйнага ды кадравага характару.

Справа ў тым, што колькасць пляцовак у паасобных раёнах нашага ваяводства не аднолькавая. Напрыклад, у Бельскім павеце ёсць сем гмінных цэнтраў і чатыры гмінныя спулдзельні. Шматталінныя пункты паслуг маюць толькі дзве мясцовасці: Орля і Вышкі. У іншых не толькі няма гэтых патрэбных устаноў, але няма нават адпаведных умоў, каб іх стварыць. У праграме бельскага ПЗГС прадбачваецца пабудова паслуговых цэнтраў у шасці гмінах. Два новыя ў Орлі і Бранску будуць перададзены ў карыстанне яшчэ ў гэтым годзе.

Ствараць паслуговыя цэнтры павінны гмінныя спулдзельні. А тым часам, няма каму тут заняцца гэтай справай. Віцэ-прэзас праўлення ГС, які вядзе гэтыя справы, мае шмат іншых, не менш важных спраў. А арганізацыйныя і інвестыцыйныя справы вакол стварэння базы для паслуговых цэнтраў патрабуюць шмат часу і захадаў. Трэба напомніць, што гмінныя спулдзельні не маюць у гэтай галіне спецыялістаў, а недахоп некаторых матэрыялаў (сталь, бляха, агравальнікі) папаўняе цяжкасці. ГС-ы не маюць спецыяльных надзелаў матэрыялаў для гэтых мэт.

Не менш важнымі з'яўляюцца кадравыя праблемы. Паслуговыя пляцоўкі патрабуюць высокакваліфікаваных кадраў спецыялістаў. Але як іх прыцягнуць на вёску? Добрых спецыялістаў чакаюць усюды. Ідуць яны працаваць туды, дзе створаны ім лепшыя ўмовы.

Дыскусійнай справай з'яўляецца сістэма заробку ў вясковых паслугах. Рамеснік ці тэхнік мае т. зв. правізію, гэта значыць, што атрымлівае пэўны працэнт ад вартасці зробленых паслуг. Такая сістэма, прынамсі спачатку, не можа заахвочваць спецыялістаў, паколькі вядома, што каб мець многа работы, майстэрня павінна вырабіць добрую марку.

Каб умела вырашыць справу паслуг на вёсцы, ужо цяпер трэба бачыць гэтыя цяжкасці. Шмат добрага можа тут унесці мясцовы актыў. Напрыклад, кадравыя і жыллёвыя клопаты ў пэўнай меры можа злагодзіць мясцовая моладзь, якая пасля школы вярнулася б працаваць у сваю мясцовасць.

**А. Карпюк**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА X

**Патрыятычная лірыка.** Арыгінальную пазіцыю ў патрыятычнай лірыцы Багдановіча займае верш „Як Базыль у паходзе канаў". Можна гэты твор назваць лірычнай элегіяй. Прадстаўляе ён беларускага селяніна, які памірае на вайне і развітваецца з сям'ёй, з сябрамі і з айчынай. Змест твора даволі не сканкрэтызаваны. Не ведаем, аб якой вайне ідзе гутарка, з якой прычыны памірае Базыль і на якой зямлі адбываецца падзея. У сувязі з тым, што верш быў напісаны ў 1915 г., можна думаць, што яго змест адносіцца да першай сусветнай вайны. Нягледзячы на гэта, верш Багдановіча дзейнічае на нашу псіхіку, бо пранізаны ён шчырай эмацыянальнасцю. Змест верша — гэта перадсмяротная споведзь чалавека, глыбока ўлюбёнага ў свой край. Выступаюць у ім таксама элементы плачаў, прычытанняў, так характэрныя для беларускага рытуальнага абраду. Герой развітваецца з полем, з лугам, борам і раднёй. Гэтыя аб'екты і складаюцца на паняцце — Беларусь.

Верш канчаецца страфой:

„Гэй, чалом табе, чалом, Беларусь,
Уся старонушка бяздольная!
Не забыў твой сын сваёй маці,
За цябе яму ў зямлі ляжаці.
Як Базыль у паходзе канаў,
Усё старонку сваю спамінаў".

Крытыкі Л. Бэндэ і А. Кучар убачылі ў гэтым вершы праяў крайняга нацыяналізму Багдановіча. Вось іх ацэнка: „Нацыяналізм Багдановіча даходзіць да крайнасці, ён напаўняе ўсю творчасць паэта. Гэтым нацыяналізмам ён нават надзяляе сялянскія вобразы, якія зрэдку з'яўляюцца ў яго творчасці. Так, селянін Базыль у вершы „Як Базыль у паходзе канаў", які памірае на імперыялістычнай вайне, лічыць, што ён канае за „бацькаўшчыну".

Базыль нават і не думае аб тым, што яго дзеці, жонка можа сядзяць галодныя — ён перад скананнем „б'ець чалом Беларусі..." Гэты верш паказальны тым, што ён паказвае, як беларуская буржуазія пакладала надзеі на імперыялістычную вайну, у гэтым вершы беларуская буржуазія гаворыць вуснамі Багдановіча пра вайну, як пра такую, якая нібыта служыць „бацькаўшчыне", за якую і канае ў паходзе Базыль". (Л. Бэндэ, А. Кучар, Матэрыялы для нарысаў на гісторыі беларускай літаратуры, Мінск 1931, Маладняк 6—7, с. 123).

На прыведзеным прыкладзе бачым, да якіх недарэчлівых вывадаў можа дайсці крытык, калі зыходзіць не з сапраўднага тэксту твора, а з сваёй ідэі-фікс.

Апошнімі вершамі патрыятычнага цыкла з'яўляюцца паэтычныя эскізы „Досі ўжо чужынцам мы служылі", „Беларусь", „Ты не згінеш, ясная заранач-ка", „Беларусь, твой народ дачакаецца". Усе гэтыя творы былі напісаны, праўдападобна, у апошнія месяцы жыцця Багдановіча. Усе яны, апрача верша „Беларусь", складаюцца толькі з адной чатырохрадковай страфы. Быць можа, гэта творы незакончаныя. Паэт, відаць, намерваўся над імі яшчэ працаваць, каб надаць ім больш закончаную форму і больш развіты змест.

Верш „Досі ўжо чужынцам мы служылі" гэта як бы адказ, як бы антытэза на верш „Як Базыль у паходзе канаў". Змест твора вельмі адназначны:

„Досі ўжо, браты, чужынцам мы служылі,
Досі ўжо пашаны ім прыдбалі,
Не сваю — чужую долю баранілі,
Пад чужымі сцягамі ўміралі".

Падобную думку выказвае аўтар і ў вершы „Беларусь". І гэты твор мае характар дэкларацыі, характар патрыятычнай заявы. Розніца заключаецца ў тым, што ў вершы „Досі ўжо..." Багдановіч гаворыць аб бессэнсоўным удзеле беларусаў у войнах, а ў вершы „Беларусь" аб бескарысным для сябе, але карысным для суседзяў укладзе беларусаў у чужыя культуры.

„Як нявехня ў няроднай сям'і,
Ты пасагу сабе не надбала,
Залатыя кляйноты тваі
Ў пыху сёстрам сваім даравала".

Апошнія два вершы: „Ты не згаснеш, ясная заранечка" і „Беларусь, твой народ дачакаецца" — гэта аптымістычныя патрыятычныя маніфесты. Праявілася ў іх вера паэта ў будучыню краіны, у гістарычную перспектыву Беларусі. Гэтыя дзве кароткія страфы гучаць як уступ да аптымістычнай оды, як фрагменты нацыянальнага гімну:

„Ты не згінеш, ясная заранічка,
Ты яшчэ асвеціш ясны край.
Беларусь мая! Краіна-браначка!
Устань, свабодны шлях сабе шукай".

і

„Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Колькі ў хмарах залётных агня".

Безнадзейна хворы паэт сваю будучыню рысаваў змрочнымі фарбамі, аднак для малюнку заўтрашняга дня айчыны знаходзіў светлыя аптымістычныя колеры.



 

 

## Адгалоскі

### БЕЛАРУСЬ — ПОЛЬШЧА

Пад такім загалоўкам у нумары ад 2 ліпеня г.г. газеты „Чырвоны сцяг”, што выходзіць у Вільні на польскай мове, сакратар Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы **У. Калачынскі** змясціў артыкул, прысвечаны гаспадарчым, навуковым і культурным сувязям паміж Беларускай ССР і Народнай Польшчай.

„Цяпер сувязі дружбы паміж Беларуссю і Польшчай абапіраюцца на шырокай грамадскай аснове, — падкрэслівае У. Калачынскі. — Прымаюць у іх удзел партыйныя, дзяржаўныя, прафсаюзныя і маладзёжныя арганізацыі”.

„Беларускія і польскія вучоныя ўсё часцей рэалізуюць працы на аснове супольных навуковых даследаванняў, — чытаем у артыкуле. — Такія сувязі наладжаны паміж Інстытутам атамнай энергетыкі Акадэміі навук БССР і Інстытутам ядзерных даследаванняў Польскай акадэміі навук, Інстытутам эксперыментальнай батанікі АН БССР і Вышэйшай сельскагаспадарчай школай у Познані, Інстытутам гісторыі АН БССР і Інстытутам польска-савецкіх адносін ПАН. У выніку супольных прац быў выдадзены польска-беларускі слоўнік, шматтамовы збор дакументаў аб Студзеньскім паўстанні. Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі, Інстытут гісторыі АН БССР супольна з Інстытутам ваеннай гісторыі ПНР падрыхтавалі і выдалі зборнік успамінаў беларускіх і польскіх партызанаў”.

Шэраг буйных прамысловых прадпрыемстваў Беларусі і Польшчы ўтрымоўваюць цеснае супрацоўніцтва, між іншым Гродзенскі тонкасуконны камбінат супрацоўнічае з Беластоцкім аб'яднаннем суконнай прамысловасці. Развіваюцца сувязі паміж паасобнымі абласцямі Беларусі і ваяводствамі Польшчы.

У галіне культуры, як піша У. Калачынскі, „Адной з найбольш дзейсных форм супрацоўніцтва з'яўляюцца дэкады польскай культуры ў Беларусі і беларускай культуры ў Польшчы. Змястоўнымі і багатымі былі ў нашай рэспубліцы Дні польскай культуры ў СССР у красавіку г.г. На сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балету выступілі салісты Вроцлаўскай оперы Марыя Лукасік і Генрык Траяноўскі. У Акруговым доме афіцэраў адбыліся канцэрты Эвы Дэмарчык. Экспанавалася тут выстаўка прац польскіх мастакоў, прысвечаная ваеннай тэме. У зале Беларускай філармоніі можна было пачуць музыку Шапэна, Бацэвіч, Лютаслаўскага і іншых кампазітараў у выкананні Беларускага дзяржаўнага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам дырыжора з Польшчы Здзіслава Шостака. У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР экспанавалася выстаўка разьбы па дрэве народнага мастака, фармаўшчыка з трактарнага завода „Урсус” Яна Грачка”.

З кожным годам павялічваецца колькасць твораў беларускіх аўтараў, перакладзеных на польскую мову і беларускіх перакладаў твораў польскіх пісьменнікаў. Побач з гэтым, як заўважае У. Калачынскі, „у Беларусі штогод прадаецца многа кніг на польскай мове. На працягу толькі апошніх 5 год мінская кнігарня „Дружба” прадала каля 100 тысяч кніг польскіх аўтараў”.

(мг)

### УВАГА, ВАНДАЛЫ!

Амаль дашчэнту знішчана аўтобусная пачакальня ў вёсцы Юшкаў Груд Беластоцкага павету. Хуліганы разбурылі сцены, дах, парэзалі лаўку. Цяпер у „трохсцэнцы” стала няўтульна, правейваюць скразнякі. Вакол яе поўна рознага смецця, раскіданай цэглы. Брудна.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

124

### СЕНАКОСНАЯ
*(„КОСЬБЯКАЯ”)*

*Пожэнiлiся обое молодые,*
*Пожэнiвшыся, обое похворыэ(лi).*
*Касенька лiежыт у ойца у маткi у коморы,*
*А Ясё лiежыт пры зiелёнуой дубро(вiе).*
*А Ясё лiежыт пры зiелёнуой дубро(вiе).*
*А по Касiоньцы ойцец i матка плачэ,*
*А по Ясёвi чорненькi ворон гра(чэ).*
*А по Ясёвi чорненькi ворон гра(чэ).*
*— Ой, нэ грач, нэ грач ты, сiвы ворон-врогу,*
*Нэ будэш iестi мого тiела бiело(го).*
*Нэ будэш iестi мого тiела бiело(го).*
*Ой, ест у мэнэ два братiйкi родзоны —*
*Поховают мэнэ пры зiелёнуой дубро(вiе).*
*Поховают мэнэ пры зiелёнуой дубро(вiе).*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

„Косьбяные” песні спяваліся ў час сенакосу.

Мелодыя, як у раней змешчанай „косьбяной” („Ты богачов сын, а я — вдовін дочка...”).

## „Жубрабут” прадукуе

Ужо каля дваццаці год працуе Сямяціцкае прадпрыемства скураной прамысловасці „Жубрабут” у Сямяцічах. Цяпер у новых цахах працуе тут 250-асабовы рабочы калектыў, які штодзень прадукуе каля дзвюх тысяч пар абутку. Большая частка яго ідзе на экспарт. Найбольш у Савецкі Саюз. Цяпер ў прадукцыі — мужчынскія сандалі, якія асабліва прыгодныя ў летнюю пару.

Значная частка рабочага калектыву — гэта маладыя людзі. Прыйшлі яны сюды працаваць пасля прафесіянальнай падрыхтоўкі ў прыфабрычнай школе.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

*Маладая закройшчыца ля свайго станка.*

## Так бывае...

### КЛІКАЎ ЯЕ Ў СНЕ...

Семнаццацігадовая Крыстына вучылася ў апошнім класе сярэдняй прафесіянальнай школы, калі нарадзілася ў яе дзіцё — хлапец. Праўдападобна, бацькам яго быў пажылы мужчына, прозвішча якога дзяўчына захавала толькі для сябе. Не шукала ў яго дапамогі. Ва ўсім прызналася толькі маці. Дзіцё нарадзіла ў доме малога дзіцяці ў Беластоку. Пад канец навучальнага года Крыстына вярнулася ў школу, як бы нічога не бывала. Летам паехала на практыку на Шлёнск. Паехала і там асталася працаваць. Хлопчык астаўся ў доме малога дзіцяці. Спачатку маці наведвала яго і, бадай, любіла Пятруся (так яго звала). Прывозіла падарункі. На Шлёнску някепска зарабляла. З часам атрымала кватэру і магла ўжо забраць малога да сябе, але не захацела. Яе маці (бабка Пятруся) адраіла ёй. — Навошта табе дзіця? — казала яна. — Ты ж маладая яшчэ. Грошы патрэбны на што іншае. Ды і хто захоча жаніцца на дзяўчыне з дзіцём?

Такім чынам, Пятрусь ізноў астаўся ў доме малога дзіцяці. З часам перастала наведваць малыша і бабка, якой Крыстына даверыла „апеку”. Маўляў, яна далёка, а бабка на месцы.

Пятрусь рос пад апекай выхавацельніц дома дзіцяці. Люба паглядзець на гэтага кучаравенькага, сінявокага хлапчука. Але ў дзіцячага сэрца ёсць свае законы. У душы хлопчыка нараджаецца цалкам абгрунтаваны непакой. Шукае ён вачыма постаці, якая б даўжэй затрымалася каля яго, высока падняла ўверх і моцна прытуліла да сябе. Шукае аднак дарэмна. І вельмі цяжка згадзіцца малышу з тым, што не прыходзіць маці. Ягоная маці. Клікаў яе ў сне. Клікаў, як умеў. А яна не прыходзіла. Пачаў адварочвацца ад кожнай жанчыны, не хацеў ні есці, ні гуляць. Стаў апатычны і пасіўны. Часта плакаў, але паціху, бездапаможна.

У чэрвені мінулага года суд пазбавіў Крыстыну мацярынскіх правоў.

Кіраўнічка дома дзіцяці не спяшалася перадаваць Пятруся чужой сям'і да ўсынаўлення. Усё спадзявалася, што змякчэе сэрца яго маці. Такі хлопчык! Аднак дарма.

І вось цяпер Пятрусь гадуецца ў адной ітэлігентнай сям'і. Любяць Пятруся яго новыя бацькі. Ён стаў зусім іншы, жыццерадасны. Бывае, цешыцца сабе вядомай толькі, дзіцячай радасцю. Бегае па садзе, у якім столькі новага, цікавага, раней нябачанага.

У гэтым выпадку жыццё дапісала аптымістычнае заканчэнне. Але ці хтось можа замяніць дзіцяці родную маці?..

Варта прыгадаць, што ў нашай краіне ёсць цяпер каля 15 тысяч такіх грамадскіх сіротак, якіх адцураліся родныя бацькі. Зрэшты, якія ж яны бацькі, калі выракліся ўласных, яшчэ зусім бездапаможных дзяцей...

**Я. Цялушэцкі**

## З маёй званіцы

### ПАНКІ І ПАНЕЧКІ

Даўно ўжо, міленькія мае, мінулі часы Вялікай Рэвалюцыі. — Бій яму морду, акулярніку, інтэлігенту паршываму, — разлягалася тады часценька на вуліцах.

Сёння ў інтэлігенты ўсе так і пруцца. Хто навукаю, працаю, удасканальваннем самога сябе, а хто проста, лакцей, кулакоў не шкадуючы, уціскаецца цераз усялякія шчылінкі, крывыя сцежкі-дарожкі — вядома, лягчэй.

Большасці чамусьці здаецца, што ўжо адна адукацыя, адзін, так сказаць, дыплом-паперка ў руцэ, дае права лічыць сябе чалавекам інтэлігентным. Іншыя атоесамліваюць гэтае паняцце з моднай вопраткай, прыгожай кватэрай, уласным аўтамабілем — з адпаведным узроўнем жыцця, значыцца. Нямала і такіх, урэшце, якія лічаць, што калі ўмеюць, адтапырыўшы малы палец, каву гадзінамі сёрбаць, папяросны дым кругамі пускаць і вывучылі на памяць жменю-другую малазразумелых слоў з Малой Энцыклапедыі, то ўжо бога за бараду схапілі.

Колькі мне не даводзілася спатыкаць людзей сапраўды вартасных, пісьменнікаў, прафесараў, выдатных спецыялістаў, цэненых рабочых, — ніводзін з іх ніколі не падкрэсліваў сваёй важнасці, не цураўся басаногага часта дзяцінства.

Наадварот. Адзін з маіх сяброў, напрыклад, вядомая ў навуковых колах асоба, часценька ўспамінае, як гэта ён калісьці на выгане за вёскаю авечак пасвіў, печаную ў попеле бульбу ўмінаў, а свет шырокі толькі ў марах бачыў...

А вунь недавучкі ўсялякія, тыя якраз, што нічым пахваліцца не могуць, тыя зусім іначай... Пяткі яшчэ ў навозе, як кажуць, а носа ўжо кулаком не дастанеш.

Вучыў, успамінаюць у маёй вёсцы, калісь пры цары яшчэ адзін селянін сына ў гімназіі. Ого, браткі! Тады гэта не абы-якая справа была і не абы-якія кошты. Ва ўсім сабе адмаўляць трэба было, каб дзіцятка любае магло, як гаварылі, у людзі прабівацца.

І вось сыночак, гордасць бацькава, сонейка маміна, на каляды з тых далёкіх школаў вярнуцца мае.

Нацягнуў татка валёнкі, кажух на плечы накінуў, упрог гнядую ў сенам выслажаныя сані і паехаў да чыгункі, дарагога госця спатыкаць.

А як жа — прыбыў. Выходзіць з цягніка паўпанак малады ва ўсёй красе, гімназістаў тады форма абавязвала — гузікі на шынялі паблiскваюць, чуб бялявы фуражкай з лакавым казырком прыкрыты.

Ад радасці стары аж праслязіўся. У абдымкі схапіў першароднага. У буфет за руку пацягнуў.

— Хадзем з дарогі, — кажа, — гарэлкі перакульнём па чарцы. Яно, ведаеш, на мароз вельмі добра. Сам, сынок, вып'еш — мяне пачастуеш.

У буфеце ж тым часам кампанія што трэба. Купцы, ураднікі, ёсць некалькі паненак... Куды тут земляробу?

Наш гімназіст замяўся, на валёнкі, кажух бацькоўскі зірнуў, няёмка кашлянуў і заўстыдаўся.

— Вы возчыку майму, каб не замёрз, падайце чарку, — уголас папрасіў...

Дзядзька спачатку аслупеў. Пераступіў з нагі на ногу. Пасля нашчадка ўніз аглянуў і за халявай пугу мацануў. Вусаты твар крывёй наліўся... Дык, значыць, возчык я табе, шчанюк? За тое, што ты маім потам, працай карыстаўся?

І пацягнуў... той пугай... раз, другі і трэці, пры ўсіх панах тых і паненках, па тым мундзіры, па шынелі — ў кут паляцела шапка з казырком.

Вось каб і сёння так... па тых пры тым, хто мову родную і тую ўжо забыўся.

**Ларс**

## Распачалася будова новага вакзала ПКС у Беластоку

Нядаўна распачалася будова вялікага комплексу — новага аўтобуснага вакзала ў Беластоку. Побач з ім у будучыні будзе пабудаваны новы чыгуначны вакзал, разам з новымі артэрыямі і падземнымі праходамі.

У двухпавярховым будынку аўтобуснага вакзала, апрача асноўнага аснашчэння, будзе рэстаран і бар, пачакальня, святліца. Заканчэнне будовы аўтобуснага вакзала прадбачваецца ў 1978 годзе. Кошт — 130 мільёнаў злотых. (ця)



 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## Пытаецеся — адказваем

# КРЫВІЧЫ

**Што гэта за племя Крывічы?**

**Чытач з Беластока**

Пытанне датычыць шырокай праблемы, якая магла б быць тэмай аб'ёмістага даследавання. Пастараемся адказаць коратка.

Крывічы — вялікая група ўсходнеславянскіх плямёнаў, што ў VII—XII стагоддзях засялялі верхнія цячэнні рэк Дняпра, Заходняй Дзвіны, Беразіны, Ловаці, Волгі і паўднёвую частку Чудскага возера, іх паселішчы на захадзе даходзілі да верхняга Нёмана ў ваколіцах Гродна. Група складалася з трох адгалінаванняў: полацкага, пскоўскага і смаленскага. У пазнейшы час полацкія і частка смаленскіх крывічоў разам з дрыгавічамі і радзімічамі склалі беларускую народнасць, пскоўскія ж разам са славенамі, вяцічамі і іншымі плямёнамі ўвайшлі ў склад рускай народнасці. Назву „крывічы" адны моваэнаўцы выводзяць ад слова „кроў" — блізкія сабе „па крыві", па сваяцтву; другія — ад легендарнага родаканчальніка або язычаскага першасвяшчэнніка „Крыва" ці „Крывейтэ", трэція — ад слова „крывъ", значыць: няпраўдамоўны, фальшывы. Адносна паходжання крывічоў у гісторыкаў таксама няма згоды: адны сцвярджаюць, што крывічы прыйшлі з тэрыторыі вакол сярэдняга цячэння ракі Дняпра, другія прабацькаўшчынай крывічоў лічаць абшары паміж Бугам і Віслай. У адным пануе згода: крывічы, прыйшоўшы, асімілявалі ранейшае мясцовае балцкае і фінскае насельніцтва і стварылі багатую культуру, а таксама пачаткі свае дзяржаўнасці (княствы). Крывічы вядомы ў помніках пісьменства, пачынаючы з IX стагоддзя, апошняе ўпамінанне аб іх адносіцца да 1162 г., калі князёў полацкіх летапіс яшчэ называе „князямі крывіцкімі". Аднак назва захавалася ў суседніх латышоў, якія Русь называюць „Крэвія", і ў шматлікіх назвах мясцовасцей Беларусі (Крывічы, Крывічаны, Крэва і іншыя).

## Куток практычных ведаў




### ШТО ВАРТА ВЕДАЦЬ ГАСПАДЫНІ

● Каб парашок для мыцця бялізны і шаравання не нішчыў рук, неабходна перад мыццём бялізны ці посуду змазаць рукі спецыяльным „Сіліконавым" крэмам для рук. Гэты крэм затрымлівае пранікаючыя ў глыб скуры шкодныя для яе хімічныя рэчывы, што знаходзяцца ў парашках.

● Каб не „плакаць", нарэзваючы цыбулю, трэба, зняўшы з яе верхнюю лупіну, спаласнуць у халоднай вадзе. Рэжучы, змачваць таксама нож у халоднай вадзе, а побач з дошачкай паставіць нейкі вялікі посуд з вадою. Калі ёсць кран, то найлепш рэзаць цыбулю недалёка ад адкручанага крана з халоднай вадой.

● Плямы чарніла на воўне найлепш чысціць, намачыўшы яе на некалькі дзён у сырым малацэ. Пасля гэтага воўну палошчам і мыем у мыльных стружках.

● Шампон для валасоў трэба перад мыццём галавы заўсёды змяшаць з вадой. Не трэба спырскваць валасоў непасрэдна шампонам. Калі мы яго нестаранна выпалашчам, то ён застаецца на валасах і аслабляе іх. Часамі нават раздражняе скуру. Шампон, распушчаны ў вадзе, хутчэй і лепш пеніцца, а таксама лягчэй спалоскваецца.

● Абутак са штучнай скуры найлепш чысціць ватай, змочанай у крэме „Nivea". Высушыўшы абутак, выглянсаваць яго мяккай сухой фланелькай.

● Нейлонавыя панчохі і райстопы трэба пасля кожнага разу, як іх апранаем, памыць, паколькі гэтыя тканіны вельмі ўражлівыя на рэчывы, якія выдзяляе цела. Мыць найлепш звычайным мылам у летняй вадзе. Сушыць на ветры, але не на сонцы і не каля печкі. Важны таксама спосаб захоўвання панчохаў. Памытыя і старанна зложаныя, яны павінны знаходзіцца ў палатнянай торбачцы (не ў нейлонавай), у сухім месцы, але не гарачым і не вільготным. Такім чынам мы зможам прадоўжыць наогул кароткае жыццё гэтых вырабаў.

**Гаспадыня**




*ДАРАГОЕ „СЭРЦАЙКА"!*

Мне няма яшчэ 18 год. Жыву я на вёсцы. Хадзіла я з хлопцам з суседняй вёскі, але ён паехаў на работу ў горад і там ажаніўся. Я вельмі перажывала, але забыць аб ім памагло мне другое знаёмства — з Юркам з нашай вёскі. Хадзіў ён раней з маёй сяброўкай. Яна цяпер на мяне пагневалася, усім гаворыць, што я ёй хлопца забрала. Гэта няпраўда, Юрка пачаў да мяне прыходзіць ўжо тады, як яе пакінуў. Я нават гаварыла яму, каб ішоў да Веры, калі яна такія прэтэнзіі да мяне з-за яго мае. Але ён і слухаць не хоча. Гаворыць, што я яму падабаюся, мяне кахае і, калі толькі споўніцца 18 год, то мы пажэнімся. Замуж я не спяшаюся, бо я яшчэ маладая, але Юрка мне падабаецца, ён добры і працавіты хлопец. Бацькам маім таксама спадабаўся.

Парай, „Сэрцайка", што мне рабіць, ці хадзіць з Юркам, ці адправіць яго да Веры?

**Аня з Бельшчыны**

Аня! Калі Юрка не захацеў хадзіць з Верай, дык ніхто яго не прымусіць да яе вярнуцца, каб нават ты яго пакінула. Напэўна знайшоў бы сабе нейкую іншую дзяўчыну. Плёткамі не пераймайся і пускай іх міма вушэй. Але ты, здаецца, Юркі не кахаеш, ён табе толькі падабаецца. Калі б яго кахала, не вагалася б, ці хадзіць, ці пакінуць. Таму раю з замужаствам не спяшацца. А пахадзіць можна, чаму ж не? А можа і ў пачуццях перакланаешся...

**„Сэрцайка"**



*Кладка на рацэ Нарве ў ваколіцах вёскі Адрынкі Гайнаўскага павету.*

*Фота М. Гайдука*

## Кансультацыя юрыста

**Пытанне:** Суд у 1965 годзе сцвердзіў, што права на спадчыну па бацьку, які памёр у 1964 годзе, маюць дзве яго дачкі. Адна з іх у 1969 годзе пачала працаваць у вытворчым кааператыве, пражываючы надалей у спадчынным доме, і ў сувязі з гэтым сельскай гаспадаркай не займаецца. Гаспадарку апрацоўвае другая сястра з мужам. Ці сястра, якая на гаспадарцы не працуе, хоць жыве ў доме, які з'яўляецца спадчынай, мае права на гаспадарку і ці можа падаць у суд на падзел спадчыны?

**Адказ:** Паводле закону, які абавязвае ад 4 лістапада 1971 г., сплату можа атрымаць той, хто працуе на індывідуальнай гаспадарцы, належыць да сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва і працуе ў сельскай гаспадарцы гэтага кааператыва, з'яўляецца непаўнагадовым або вучыцца, з'яўляецца трывала няздольным да працы, або маючы кваліфікацыі да вядзення сельскай гаспадаркі, зложыць у судзе або ў натарыяце асведчанне, што выражае гатоўнасць працаваць на сельскай гаспадарцы, або паступіць у сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў. У гэтым апошнім выпадку суд, прысуджваючы сплату, адтэрміноўвае іх выплату да часу, калі гэтыя ўмовы будуць споўнены. Праца ў вытворчым кааператыве, нават калі б гэта быў сельскагаспадарчы кааператыў, не стварае права да сплат, калі не з'яўляецца працай сельскагаспадарчай, напрыклад, бухгалтар. Пражыванне ў спадчынным доме ў гэтым выпадку з'яўляецца без значэння.

## Ці ведаеце, што...

...ў Польшчы існуе звыш 50 тысяч бібліятэк з 235 мільёнамі кніг.

...у сярэднім на аднаго жыхара Польшчы прыпадае 199 кніжак. (ця)

## За народную ўладу

# НАРВА, ГОД 1944

З Канстанцінам Міхалюком, якому ўжо 77 год, пазнаёміўся я найперш. Пасля яшчэ прыйшлі: Язэп Плясковіч — 72-гадовы міліцыянер на пенсіі і самы малодшы з іх — 67-гадовы Ян Якубоўскі, таксама пенсіянер, які амаль 30 гадоў працаваў у нараўскім ГС-е.

Сабраліся мы ў кабінеце цяперашняга начальніка Нараўскай гміны, тав. Віталіса Пякарскага, каб успомніць, як у Нарве арганізавалася народная ўлада.

**Канстанцін Міхалюк** звязаў свой лёс з Нарвай яшчэ ў 1919 годзе. На працягу міжваеннага 20-годдзя працаваў ён у Нарве гмінным сакратаром і на гэту ж пасаду вярнуўся ў кастрычніку 1944 года.

**Язэп Плясковіч** — родам з Нарвы. Адным з першых ў 1944 годзе паступіў на небяспечную службу ў міліцыі.

**Ян Якубоўскі** — заснавальнік нараўскай арганізацыі „Сялянская самапомач" і першай у Нарве спулдзельчай крамы.

Усе згадзіліся, каб першы ўзяў слова Язэп Плясковіч. Высокі, плячысты, здаравенны мужчына, ён ужо сваім выглядам узбуджае паслухмянасць.

— Ён з нас, — заявіў Канстанцін Міхалюк, — найлепш ведае, як было на самым пачатку пасля вызвалення.

— Савецкая армія, — пачаў свой расказ Язэп Плясковіч, — вызваліла Нарву 19 ліпеня 1944 года. Ніхто з нас тады яшчэ не ведаў, якая будзе тут улада. Адміністрацыя знаходзілася ў руках ваеннай камендатуры. У Гайнаўцы нейкі час дзейнічалі органы раённага выканаўчага камітэта. Яны аб'явілі, што прымаюць людзей у міліцыю. Я ў міліцыі служыў яшчэ пры савецкай уладзе ў 1939—1941 гадах. З Якубам Амбражэвічам і яшчэ адным чалавекам (прозвішча ўжо забыў), адправіліся мы ў Гайнаўку. Там мы даведаліся, што Беласточчына будзе належаць да Польскай дзяржавы.

І сапраўды, праз нейкі тыдзень, дакладна памятаю, што было гэта 22 жніўня 1944 года, разнеслася па Нарве чутка, што прыехалі да нас прадстаўнікі польскай улады. У такіх выпадках людзі ў нас збіраюцца на ўзгорку над рэчкай Нарвай, непадалёк ад касцёла. І я туды пайшоў.



*Канстанцін Міхалюк.*

Было іх двое: адзін вайсковы, плютановы, а другі цывільны, з бародкай, інтэлігентны чалавек.

Сабраўшымся жыхарам расказалі яны аб ходзе падзей на франтах, аб барацьбе Войска Польскага, аб Польскім камітэце нацыянальнага вызвалення, аб Ліпеньскім Маніфесце гэтага Камітэта, аб асновах народнай дэмакратычнай улады.

Тут жа адбыліся выбары войта, значыць — па-цяперашняму — начальніка гміны. Хтосьці запрапанаваў, каб войтам у Нарве стаў Антон Нікановіч. Ён згадзіўся на гэта, і за яго ўсе прагаласавалі. Гэта добры, сумленны чалавек. Цяпер ужо на пенсіі. Жыве ў Беластоку. Працаваў у Ваяводскім камітэце партыі і ў Ваяводскай радзе нарадовай. Тут, у Нарве, працаваў у найбольш небяспечны перыяд, да 1948 года.

На другі дзень гэты ж вайсковы, плютановы, пачаў арганізоўваць міліцыю. Усіх ахвотных сабраў вось тут, у гэтым будынку, дзе цяпер змяшчаецца гміннае ўпраўленне. Сабралася нас чалавек 20. Памятаю, што прыйшоў Флор Леўчук, Чэслаў Амбражэвіч, якога ўсе мы называлі Ракулай, Якуб Амбражэвіч, Сцяпан Паскробка, які даслужыўся ў міліцыі звання капітана і цяпер ужо знаходзіцца на пенсіі, жыве на Гайнаўшчыне. З Храбустоўкі прыйшоў Ян Іванюк, які і па сённяшні дзень яшчэ працуе ў міліцыі. З вёскі Камень былі Тарас Ігнацюк і Ян Яканюк, з Агароднікаў — Аляксандр Каральчук.

Камендантам стаў Флор Леўчук, а яго намеснікам — Чэслаў Амбражэвіч.

І так вось пачалі мы сваю міліцыйную службу ў Нарве. Значыць, мелі абараняць народную ўладу і сачыць за грамадскім парадкам.

Ніякай міліцыйнай вопраткі ніхто не даваў, зарплаты за службу таксама не абяцалі, нават аб зброі трэба было клапаціцца самому. На шчасце, з гэтай справай вялікай бяды не было, бо пакінутай і згубленай зброі кругом валялася ўдосталь. Спалі мы на нейкіх нарах, засцеленых саломай, карміліся абы-чым, што падасылалі нам солтысы паасобных вёсак, якія мелі абавязак пастаўляць нам харчавыя прадукты...

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

**Віктар Рудчык**

фота аўтара



*Язэп Плясковіч.*

## ВАЖНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА

Праходзіў сход работнікаў рэстарана. Абмяркоўвалі пытанне, як палепшыць абслугоўванне наведвальнікаў.

— Таварышы, у каго будуць якія прапановы? — спытаў дырэктар рэстарана.

Слова ўзяла старшыня мясцкома Ганна Сціпанаўна:

— Зараз модна адзначаць тысячнага, пяцітысячнага наведвальніка. Ці не ўкараніць і нам гэтае мерапрыемства? Можна, для прыкладу, стотысячнага наведвальніка ўзнагародзіць пуцёўкай у санаторый для хворых на страўнікавыя хваробы...

Прапанавалася стотысячнаму наведвальніку падараваць торт ці букет кветак.

Кіраўнік аркестра прапанаваў будучаму невядомаму шчасліўчыку дазволіць заказаць музыку на свой густ.

— Таварышы, трэба што-небудзь прыдумаць незвычайнае, каб аб нашым рэстаране загаварылі, у газеце напісалі, — сказаў кухар дзядзька Вася.

Маладзенькая афіцыянтка Тося, якая толькі нядаўна прыйшла на працу ў рэстаран, прапанавала:

— А што, калі кожнага стотысячнага наведвальніка ветліва і хуценька абслужыць?..

Усе глянулі на навенькую з цікаўнасцю — і прыйдзе ж такое ў галаву!

Але тут давялося задумацца: каму даручыць гэтую справу? Тут патрэбен такі чалавек... такі чалавек!.. Усе з надзеяй паглядзелі на афіцыянта Васю Лоўкіча. Ён усё мог.

— Ну, няхай! — зморшчыўшы лоб, пагадзіўся Вася. — Але ў мяне будзе сустрэчная прапанова. Я па ўсіх правілах хутка і культурна абслужу стотысячнага наведвальніка. За гэтую звышштатную работу мне ўручыце тыднёвую пуцёўку ў дом адпачынку. Павінен жа я пасля такой работы адпачыць?

Тую і другую прапановы прынялі пад дружныя апладысменты.

Д. Здараўцова



*Выпрабаваны метад.*

### ПАЦЕШЫЎ

У містэра Смайлса памірала жонка, маладая і прыгожая жанчына. Містэр Смайлс вёў сябе на пахаванні мужна і стойка. Што ж датычыць былога каханка яго жонкі, дык той голасна рыдаў і, не скрываючы, гаварыў аб сваёй страце.

Містэр Смайлс спакойна назіраў усё гэта, а пасля пахавання падышоў да рыдаўшага юнака і сардэчна сказаў:

— Не хвалюйцеся, мой дружа, я збіраюся жаніцца зноў...

### ДУМКІ

Размова кіназорак:

— Мне страшна ад думкі аб пяцідзесяцігадовым узросце!

— Дарагая, а што з табою тады здарылася?



*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*



— *Мой Сеня, вѝдаць, забыў, што скача не ў вышыню, а ў ваду!*

### ЗНОЎ П'ЯНЫ

— О, Божа, зноў ты сёння п'яны! — накінулася жонка на мужа.

— Калі я Бог, дык табе не ляяцца, а маліцца на мяне трэба, — адказаў муж.

ГУМАР 3

### ЯК БАЦЬКА З СЫНАМ ГАСПАДАРЫЛІ

Ідуць бацька з сынам п'яненькія.

Сын кажа:

— Гаспадарнічаем мы, тата, з вамі, бадай бы чэрці вашага бацьку так гаспадарнічалі.

— Чыёга, сыночку, бацьку? — пытае бацька.

— Ды як вам, тату, шкада свайго, дык няхай майго, — адказвае сын.



— *Кажаш, дзеці адчуваюць сябе добра? Чые дзеці?!*

### НЕ З КРАЮ...

У засені зялёнай
Між дамкоў-блізнятак,
Прымасціўся домік
Маўчуна Ігната.

Гаспадар ягоны
Даўні нораў мае —
Жыве па закону:
„Мая хата з краю".

З суседскага дома
Ніхто не працуе,
Адзін тата Рома
Базаю кіруе.

Ды уся сямейка
Не знае нястачы.
„Добрую капейку
Ён бярэ, няйначай!?" —

Жыхары пасёлка
Гэтак разважаюць.
Маўчун плюсне вокам:
Мая хата з краю...

Усё відаць Ігнату:
Як у час вячэрні
Ля суседскай хаты
Стане газік шэры,

Як у цемрадзь ночы
Мчаць на поўным газе
І сыны і дочкі
Загадчыка базы.

Татавы „халтуркі"
Дзеткі „заганяюць".
Маўчун ладзіць жмуркі:
— Мая хата з краю...

Суседава хватка
Маўчуну вядома:
Быў не раз Ігнатка
У Рамана дома;

Піў там не сівуху —
Каньякі, лікёры,
І бубніў на вуха:
— Рома зверне горы!

...Ды хапугу Рому
За руку схапілі,
І усім вядома,
Куды пасадзілі.

Што нажыў крутнёю —
Усё адабралі...
Людзі з цеплынёю
Прыгавор віталі.

І — у бок Ігната:
„А ён што — гуляе?
Не, браточкі, хата
І яго не з краю!"

Васіль Масеўскі

Дрэсіроўшчык трыумфаваў: „Руку ліжуць!"

Радаваўся ашыйніку: „Гуляць будзем!"

### СУПОЛЬНАЯ МОВА

Жабрак пазваніў у дзверы і дрыжачым голасам сказаў адчыніўшай яму жанчыне:

— Я тры дні нічога не еў...

Поўная пані ўзрушана пляснула рукамі:

— О, як цікава! Вы, значыць, таксама худзееце? А што вы яшчэ дзеля гэтага робіце?

МІНІВЕРШЫ

### ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ

— Прычоска доўтая твая —
звычайная банальнасць.
— Але ж затое маю я...
Індывідуальнасць!

### У СВАІХ ВАЧАХ

Яго адзначылі аднойчы —
І ён зазнаўся, проста жах.
Ні з кім вітацца больш не хоча,
Бо вырас сам... ў сваіх вачах.

Мікола Варшынін



— *Нарэшце мы адны!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Лідзіі Аляксеюк, Тэрэсы Пытэль, Галіны Ясінскай, Рамуальды Аляксеюк, Люцыны Ясінскай і Вальдэмара Пытля з Баркоў Гайнаўскага павету змяшчаем песню

## ACH, FRANKA, FRANKA

Słowa: Ewa Bonacka
Muzyka: Ryszard Sielicki

Jak długo mam tu stać na ulicy
pod oknem Franki, tej cholernicy?
I ja tu stoję, i kumple stoją,
od tego stania już nogi bolą.
Ach, Franka, Franka, powiedzże, Frania,
co z nami będzie względem kochania?
Ach, Franka, Franka, powiedzże, Frania,
co z nami będzie względem kochania?

Grajże, muzyko, grajże wesoło,
może mnie wreszcie Franka zawoła,
będziemy razem muzyki słuchać,
będziemy razem piwko popijać!
Ach, Franka, Franka, powiedzże, Frania,
co z nami będzie względem kochania?
Ach, Franka, Franka, powiedzże, Frania,
co z nami będzie względem kochania?

Przez to staranie nicem nie zyskał,
anim się najadł, anim się wyspał,
tylkom na ciebie pieniądze stracił,
wódkę fundował, muzykę płacił!
Ach, Franka, Franka, powiedzże, Frania,
co z nami będzie względem kochania?
Ach, Franka, Franka, powiedzże, Frania,
co z nami będzie względem kochania?

Ach, Franka, Franka, co ci mam zrobić?
Czy ci kark skręcić, czy nożem zabić?
Nimżem tu przyszedł pod twoje progi,
bodaj bym złamał obydwie nogi.
Ach, Franka, Franka, wyglądasz pięknie,
chyba z tej złości serce mi pęknie!
Ach, Franka, Franka, wyglądasz pięknie,
chyba z tej złości serce mi pęknie.



### НАВЕДВАЛЬНІКІ З'ЕЛІ КАРЦІНУ

Некаторыя экспанаты выстаўкі твораў мастацтва, якая адкрылася ў Нью-Йорку, прыдатныя для... яды. З цікаўнасцю агледзеўшы адну з карцін — а гэта былі шакаладныя горы і рэчка з цеста — наведвальнікі выстаўкі з'елі гэты арыгінальны пейзаж.

### НАШЭСЦЕ ЗМЕЙ

Жыхары афрыканскай вёскі Кела, якая згубілася ў бязмежнай саване Чада, як звычайна, усталі ў гэты дзень на світанні. Пачынаўся новы працоўны дзень, і нішто не прадвяшчала бяды. Раптам з адной з крайніх хацін пачуліся пранізлівыя крыкі аб дапамозе. Жыхары вёскі, якія жывуць адзін на адзін з дзікай прыродай, прывыклі да розннага роду сюрпрызаў. Многія падумалі, што і на гэты раз статак малпаў зрабіў набег на месцы захоўвання прадуктаў харчавання. Усё аказалася куды горш: незлічонае мноства змей, якіх гнаў ці то нейкі інстынкт, ці то далёкі пажар, наступала на вёску.

Узброіўшыся доўгімі нажамі, палкамі і каменнем, людзі занялі абарону. Нашэсце паўзуноў было адбіта, але немалой цаной. Некалькі дзесяткаў чалавек пацярпелі ад ядавітых укусаў, пяцярым выратаваць жыццё так і не ўдалося.

### 150 „ЗАЛАТЫХ ВЯСЕЛЛЯЎ"

У англійскім горадзе Фалькстоне сабралася 150 шлюбных пар, каб адсвяткаваць сваё „залатыя вяселлі". Юбіляры прыехалі на старадаўніх фаэтонах. Аркестры ігралі папулярныя мелодыі мінулага. Быў паказаны нямы фільм з удзелам Чарлі Чапліна, выпушчаны на экран у 1923 годзе. Акампаніраваў 93-гадовы піяніст. Увогуле усё было, як 50 гадоў назад!




*Навошта спрачацца? Усё роўна ваш працаўнік вам нічога не дакажа.*